

Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 391 Чэрвень 1992
Год. выд. XLI

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

# КАНЦЭПЦЫЯ ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ (Працяг. Пачатак у No. 390)

**Правядзеньне дзяржаўнай палітыкі па структурных зьменах эканомікі Рэспублікі Беларусі на падставе рынкавых падыходаў**

Першыя вынікі структурнай перабудовы будуць характарызавацца павышэньнем эфектыўнасьці працы наяўнага патэнцыялу. Пасьля структурных зьменаў спыняцца неэфектыўныя і непатрэбныя вытворчасьці. Бязь іхнага спыненьня нельга вызваліць рэсурсы, якіх сёньня не стае высокаэфэктыўным вытворчасьцям. У зьвязку з гэтым адбудзецца агульнае падзеньне аб'ёмаў вытворчасьці й вызваленьне працоўных рэсурсаў, г. зн. змушанае беспрацоўе, што ёсьць абавязковай умовай вызваленьня рэсурсаў. Без падзеньня агульнага аб'ёму вытворчасьці нельга палепшыць дабрабыт народу з-за недахопу рэсурсаў для самых патрэбных тэхналёгіяў. Калі ня будзе выробленая нікому не патрэбная прадукцыя, дык ад гэтага жыцьцё народу ня будзе горшае. Тым часам рэсурсы будуць выкарыстаныя ў кірунку, патрэбным грамадзтву. Сапраўдную інфармацыю аб каштоўнасьці прадпрыемства і яго прадукцыі зможа даць толькі рынак. Аднак пры правядзеньні структурных зьменяў эканомікі павінна быць сфармаваная дзяржаўная палітыка па скарачэньню матэрыяла і энергаёмістых вытворчасьцей і разгортваньня ўжо на гатовых тэхналёгіях вырабаў, якія павышаюць экспартныя магчымасьці эканомікі Беларусі. Патрабуецца распрацоўка стратэгічных дзяржаўных навукова-тэхнічных праграмаў, якія б, па-першае, забясьпечылі экспартны патэнцыял рэспублікі і, па-другое, дазволілі б загрузіць работай і захаваць высокакваліфікаваныя навукова-тэхнічныя кадры рэспублікі, без якіх яе эканоміка ня зможа існаваць.

Поўная свабода й неміручая адказнасьць прадпрыемстваў і камэрцыйных банкаў у выглядзе банкруцтва, дакладная інфармацыя пра карыснасьць для грамадзтва працоўнай дзейнасьці і прадукцыі, што вырабляецца, пра эфэктыўную працу прадпрыемстваў па прыбытку і рэнтабельнасьці, становяцца мэханізмам, здольным хутка і дзейсна правесьці структурную перабудову і прымусіць усіх працаваць на задаволеньне патрэбаў насельніцтва.

Гэтыя рынкавыя сілы давядуць да банкруцтва тыя прадпрыемствы, што працуюць бяз сэнсу, а іхныя рэсурсы паглынуць лепшыя з дапамогаю крэдытаў камэрцыйных банкаў і выпуску акцыяў. Таму варыянт чым хутчэйшага пераходу да рынкавых дачыненьняў самы аптымальны.

Пры агульным спадзе вытворчасьці хутка будзе павялічацца вытворчасьць тавараў спажываньня. Пры гэтым маецца на ўвазе, што і сродкі вытворчасьці — гэта таксама тавары спажываньня. Варта падкрэсьліць, што рэформа пачынаецца з вызваленьня ня толькі матар'яльных, але й працоўных рэсурсаў. Калі замінаць вызваленьню працоўнай сілы, рэформы ня будзе. Змагацца зь беспрацоўем мэтадамі, якія будуць перашкаджаць эфектыўнам разьвіцьцю прадукцыйных сілаў, немэтазгодна й шкодна. Прадпрыемствы павінны павышаць эфектыўнасьць вытворчасьці, каб выжыць у канкурэнцыі. Сацыяльная абарона вызваленых пры гэтым працоўных павінна стаць функцыяй дзяржавы.

Асноўным станоўчым вынікам пераходнага пэрыяду ёсьць імклівая структурная перабудова пад узьдзеяньнем рынкавых сілаў, бо менавіта яна скіруе работу наяўных прадукцыйных сілаў на патрэбы грамадзянаў. Найбольш рэнтабельным станецца аграрны сэктар, бо попыт на харчовыя прадукты найбольшы. Сельскай гаспадарцы дапамога будзе без патрэбы, бо за грошы рэсурсы паплывуць самі.

На пачатак сапраўднай рэформы, а ня ейнай імітацыі, пакажа масавае банкруцтва прадпрыемстваў. Канвэрсію абарончай прамысловасьці належыць весьці па рынкавых правілах. Але сёньня неабходная канвэрсія ўсёй эканомікі, і правілы канвэрсіі павінны быць агульныя для ўсіх.

У праграму па беспрацоўю закладваецца вузлавы прынцып канвэрсіі: калі раней грошы плацілі працоўным за працу, пазбаўленую разумных падставаў, дык на пачатковым этапе рэформы дзяржава абавязаная плаціць ім тыя самыя грошы як дапамогу па беспрацоўю дзеля захаваньня кваліфікаваных кадраў і дзеля таго, каб яны далі магчымасьць бесканфліктна вызваліць тыя рэсурсы грамадзтва, што марнуюць без сэнсу, а г. зн. зьберагчы працу многіх іншых людзей. Нельга штучна ствараць працоўныя месцы, каб зьменшыць колькасьць беспрацоўных. Дзяржава павінна ствараць усе ўмовы перакваліфікацыі беспрацоўных і дзеля іхнай сацыяльнай абароны. Ствараць працоўныя месцы трэба больш эфэктыўна і самім рынкавым мэханізмам.

Дзяржава можа фінансаваць і кантраляваць грамадзкія работы з мэтай зьніжэньня ўзроўню беспрацоў'я і вырашэньня агульна-дзяржаўных праблемаў, напрыклад, будаўніцтва дарогаў. Аднак належыць адзначыць неабходнасьць прызнаньня прынцыпу: рабочая сіла перамяшчаецца да рабочых месцаў, а не наадварот.

Банкруцтва, крэдыты, высокія даходы і сацыяльная палітыка, якая правадзіцца праз падаткі — натуральныя рухавікі рынкавай эканомікі, за самы кароткі час здольныя бесканфліктна правесьці структурную перабудову.

**Правядзеньне валютнай рэформы, фінансавая сыстэма**

Паўнацэнныя грошы можна атрымаць толькі пры адным тыпе гаспадарчай дзейнасьці — свабодным гандлі. Фінансавая сыстэма Беларусі павінна будзе аднавіць ролю безнаяўных грошай. Трэба ануляваць усе існуючыя безнаяўныя рублі на рахунках юрыдычных асобаў і праз цэнтральны і камэрцыйныя банкі ўвесьці новыя безнаяўныя грошы, каб пераразьмеркаваць грошы ад неэфэктыўных вытворчасьцяў-эфэктыўным.

Сувэрэнная дзяржава Беларусь ня можа праводзіць самастойную фінансавую палітыку, карыстаючыся грашовай адзінкай іншай сувэрэнай дзяржавы, якая валодае эмісіяй.

Безнаяўныя грошы можна атрымаць праз тры магчымасьці;

па-першае, праз продаж тавараў на свабодным рынку Беларусі;

па-другое, праз крэдыты ў беларускай банкавай сыстэме;

па-трэцяе, праз абмен валюты па свабодным рынкавым курсе, а таксама праз абмен безнаяўных грошай па тым курсе, які фармуецца.

Для ацэнкі і далейшага выкарыстаньня трэба:

па-першае, ацаніць магчымы аб'ём таваразвароту ў межах свабоднага рынку Беларусі і адпаведны яму аб'ём крэдытных рэсурсаў;

па-другое, падлічыць неабходныя памеры паступленьняў у бюджэты ўсіх узроўняў з даходаў прадпрыемстваў і грамадзянаў, атрыманых на свабодным рэспубліканскім рынку.

На падрыхтоўчым этапе прадугледжваецца:

— Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусі і ягоным аддзяленьням даюцца крэдытныя рэсурсы ў разьлічаных памерах.

— Усім прадпрыемствам, ахвочым працаваць па правілах свабоднага рынку, адкрываюцца асобныя рахункі ў камэрцыйных банках Беларусі.

— Усім бюджэтным установам і арганізацыям адкрываюцца такія самыя асобныя рахункі, на якія павінны паступаць сродкі бюджэтаў розных узроўняў.

— Кожнаму грамадзяніну Беларусі і асобам без грамадзянства, каторыя стала жывуць у Рэспубліцы Беларусі, адчыняецца толькі адзін спэцыяльны рахунак у любым ашчадным банку.

— Усім ахвочым камэрцыйным банкам адчыняюцца асобныя рахункі ў аддзелах Нацыянальнага банку для атрыманьня крэдытных рэсурсаў ад дзяржавы.

Камэрцыйныя банкі для абслугі кліентаў бяруць крэдыты ў аддзелах Нацыянальнага банку, дзе памеры пазыкаў, тэрміны вяртаньня й працэнты вызначаюцца паводле рынкавых правілаў. Пасьля такім самым чынам камэрцыйныя банкі крэдытуюць камэрцыйныя прадпрыемствы, а аддзелы Нацыянальнага банку выдаюць, пры патрэбе, пазыкі бюджэтным установам.

Галоўная роля ў рынкавай фінансавай сыстэме даецца камэрцыйным банкам. Камэрцыйныя банкі, канвэрсуючы ў сябе грашовыя сродкі, становіцца галоўным зьвяном у структурнай перабудове. Толькі праз іхныя крэдыты змогуць хутка паглынацца вызваленыя прадукцыйныя сілы і рэсурсы, ствараца і ўкараняцца сучасныя тэхналёгіі. Аднак, пры правядзеньні неэфектыўнай крэдытнай палітыкі камэрцыйныя банкі немінуча павінны станавіцца банкрутамі.

Увод нацыянальнай валюты, як адной зь неабходных структураў, патрабуе стварэньня сыстэмы рэзэрву або ейнага аналёгу. Гэтая сыстэма будзе рэгуляваць эканамічную актыўнасьць, забясьпечваць стабільнасьць грашовай сыстэмы і ў пэўнай ступені страхаваць камэрцыйныя банкі ад банкруцтва.

Як толькі прадпрыемствы пяройдуць на камэрцыйную гаспадарчую дзейнасьць, грашовая адзінка Рэспублікі Беларусі, якая абслугоўвае іх гандлёвыя транзакцыі, станецца ўсеагульным эквівалентам усіх тавараў рынку Беларусі.

Дазвол на свабодны абмен па рынкавым курсе грашовых адзінак Рэспублікі Беларусі на СКВ забясьпечыць унутраную канвэрсавальнасьць грашовай масы.

Для Беларусі, як дзяржавы, неабходны ўвод уласны грошай, купляльная сіла каторых будзе забясьпечвацца:

— свабоднай рэалізацыяй тавараў і паслугаў;

— захаваньнем сталага індэксу цэнаў на асноўныя спажывецкія тавары.

Толькі пры сталым індэксе цэнаў рэнтабельнасьць аказваецца неперакрыўленая, што правільна арыентуе гаспадарчых кіраўнікоў. Такім чынам, галоўная задача Нацыянальнага банку як цэнтральнага банку, — гэта забесьпячэньне сталага індэксу цэнаў праз рэгуляваньне колькасьці грошай у звароце.

Мытная палітыка: вываз сыравіны й тавараў неглыбокай перапрацоўкі абкладаецца высокім падаткам, навукаёмістая прадукцыя й тавары з глыбокім узроўнем перапрацоўкі падаткам могуць і не абкладацца. Танныя сыравіна й працоўныя рэсурсы ў рэспубліцы будуць вабіць замежны капітал для арганізацыі на Беларусі эфэктыўнай вытворчасьці тэхналягічна складанай прадукцыі, на ўвоз якой ня будуць уводзіцца высокія падаткі. Што да доступу тавараў зь іншых краінаў на рынак Рэспублікі, тут трэба праводзіць дыфэрэнцыяваную мытную палітыку, не дапускаючы краху ўласных вытворцаў, але абвяшчаючы пры гэтым, што на працягу пэўнага часу падаткі на ўвезеныя тавары будуць зьніжацца і будзе ўстаноўлены тэрмін іх адмены.

Праводзячы валютную рэформу,

(Працяг на 2-й б.)

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Канцэпцыя эканамічнай рэформы**

**(працяг)**

давядзецца вырашаць наступныя пытаньні:

— тэхнічныя, зьвязаныя з вырабам грошай;

— мэтадычныя, зьвязаныя з тым, якім чынам уводзіць новыя грошы і зь якім маштабам цэнаў;

— ацэнка аб'ёмаў (масы) наяўных грошай;

— вызначэньне неабходных рэзэрваў СКВ для рэалізацыі ўнутранай канвэрсавальнай грашовай адзінкі;

— абарона грашовай сыстэмы;

— валютныя пагадненьні з суседнімі дзяржавамі, улучна з былымі рэспублікамі СССР;

— атрыманьне крэдытаў у СКВ пад заклад багацьцяў Беларусі для стварэньня запасаў сыравіны, энэргарэсурсаў і камплектацыі для забесьпячэньня ўстойлівай работы эканомікі на некалькі цыкляў вытворчасьці ў пачатковы пэрыяд рэформы.

Мэтазгодна ў адначасьсе з валютнай рэформай прывесьці структуру цэнаў у адпаведнасьць са структурай цэнаў эўрапэйскіх дзяржаваў, улічваючы розьніцу ў тэхналёгіях. Пажаданая арыентацыя наміналаў купюр, цэнаў на аналігічныя рашэньні ў ФРГ.

Заканадаўча трэба замацаваць на тэрыторыі Беларусі толькі і выключна адзін плацёжны сродак — яе грошы. Выкарыстаньне іншых валют забараняецца законам і парушэньне забароны крымінальна караецца, па-першае, а па-другое, мае быць забясьпечаная эканамічная выгада выкарыстаньня грошай Рэспублікі Беларусі.

**Плян дзеяньняў.**
**Падрыхтоўчы пэрыяд:**

1. Масіраваная прапаганда праграмы рэформаў.
2. Навучаньне кіраўнікоў гаспадарак уласьцівасьцям рынкавага мэханізму.
3. Падрыхтоўка фінансавай сыстэмы для абслугі рынкавых дачыненьняў:

— падрыхтоўка валютнай і структурнай цэнавай рэформаў;

—анулюющца ўсе безнаяўныя грошы на рахунках юрыдычных асобаў або зьмяншаюцца ў некалькі разоў;

— уводзяцца безнаяўныя беларускія грошы або адкрываюцца паралельныя рахункі ў існуючых камэрцыйных банках па спэцыяльнай праграме.

4. Дзяржаўная ўласнасьць дзеліцца на рэспубліканскую й муніцыпальную, даецца права яе прыватызацыі адпаведнымі ўзроўнямі дзяржаўнага кіраваньня ў межах дзейнага заканадаўства.
5. Увесь гандаль таварамі спажываньня звыш устаноўленай вартасьці заканадаўча пераводзіцца толькі (!) на безнаяўны разьлік з адзінага рахунку грамадзян зь ягонай рэгістрацыяй у пашпарце і г.д.
6. Заканадаўча даецца месячны тэрмін, каб перавесьці на адзіны асабовы рахунак грошы з усіх іншых рахункаў і наяўныя грошы без дэкларацыі пра крыніцу даходаў.

Усе сродкі, якія будуць паступаць на адзіны асабовы рахунак пасьля ўстаноўленага тэрміну, павінны падмацоўвацца дакумэнтамі, што засьведчаць законнасьць крыніцаў даходу.

7. Замарожваюцца на адзін год грашовыя назапашваньні звыш вызначанай сумы для набыцьця тавараў спажываньня, апрача спэцыяльна абумоўленых выпадкаў.

У інвэстыцыйнай дзейнасьці замарожаныя сродкі дазволена выкарыстоўваць без абмежаваньняў.

8. Заканадаўча ўводзіцца новы мэханізм падатквай палітыкі, які прадугледзіць многаканальнасьць і самастойнасьць вызначэньня ставак падатку.

Памеры падатквых ставак вызначаюцца адпаведна патрэбам бюджэтаў у межах разьдзелу паўнамоцтваў дзяржаўных органаў рознага ўзроўню.

З прадпрыемстваў бяруцца падаткі за выкарыстаньне прыродных рэсурсаў, шкоднае ўзьдзеяньне на наваколье, вызначаецца акцызны падатак на вытворчасьць тавараў, што задавальняюць шкодныя звычкі чалавека, а таксама на вытворчасьць прадметаў раскошы.

9. Фармуецца адзіная падатквая інспэкцыя. У крымінальны кодэкс уводзяцца артыкулы аб пакараньні за ўкрываньне даходаў.
10. Заканадаўча забараняецца браць падаткў з сродкаў, што ідуць на інвэстыцыі.
11. Заканадаўча забараняецца выдатканьне бюджэтных сродкаў на камэрцыйную дзейнасьць.
12. Ствараецца фонд адаптацыі насельніцтва і прадпрыемстваў да новага гаспадарчага мэханізму.
13. Ствараюцца службы сацыяльнай абароны і занятасьці.
14. Прымаецца Закон пра абарону беспрацоўных, які б прадугледжваў асігнаваньні за кошт фонду адаптацыі для выплаты дапамог па беспрацоўі ў памерах, блізкіх да сярэдняга заробку.
15. Прымаецца Закон аб банкруцтве камэрцыйных банкаў і прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасьці.
16. Ствараецца дзяржаўныя інфармацыйныя служба якая будзе паведамляць вытворцам і спажыўцам пра каньюнктуру, што складваецца на ўнутраным і зьнешнім рынку.
17. Праводзяцца перамовы і падпісваюцца клірынгавыя пагадненьні для ўзаемных разьлікаў зь дзяржавамі (былымі рэспублікамі СССР). Ствараецца беларуская служба закупак і продажу для ажыцьцяўленьня міжрэспубліканскага гандлю.
18. Падрыхтоўваецца заканадаўства, якое будзе прадугледжваць адказнасьць партнёраў за невыкананьне кантрактаў і за падман пакупнікоў, у тым ліку і з выкарыстаньнем рэклямы.

*(Заканчэньне у наступным нумары)*

*Спатканьне былых вучняў гімназіі імя Я. Купалы*
**адбудзецца ў часе 20-е сустрэчы у суботу 5-га верасьня.**
*У праграме: разгляд рыхтаванае кнігі, успаміны, бяседа.*

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ
і
ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
запрашаюць беларускае грамадзтва на
***20-ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ,***
якая адбудзецца сёлета ў *LABOR Day Weekend*
**5-7 верасьня ў Гайлянд Парку — Нью Брансьвіку, шт. Нью Джэрзі.**

ТЭМА СУСТРЭЧЫ: **БЕЛАРУСЬ на шляху да незалежнасьці (у 75-ыя ўгодкі 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу)**

ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:

***Субота 5-га верасьня:*** **гадз. 10:30 — урачыстыя памінкі на Беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку;**
**гадз. 1:00 — адкрыцьцё сустрэчы ў Hyatt Regency Hotel, New Brunswick, N.J. і працоўныя сэсіі — дыскусіі на тэму сустрэчы;**
**Спатканьне былых вучняў гімназіі ім. Я. Купалы;**
**гадз. 9:00 — баль сустрэчы ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў г. Саўт Рывэры.**

***Нядзеля 6-га верасьня:*** **гадз. 10:00 — Архірэйская служба Божая ў царкве Сьв. Жыровіцкае Маці Божай у Гайлянд Парку, шт. Нью Джэрзі;**
**гадз. 1:00 — урачысты банкет у Regency Ball Room, Hyatt Regency Hotel;**
**КАНЦЭРТ.**
**гадз. 4:00 — нарады беларускіх арганізацыяў: Фонду «Адраджэньне», Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі і інш.**

*Камітэт Сустрэчы просіць арганізацыі паведамляць аб колькасьці ўдзельнікаў як мага раней на нумары тэлефону:* **tel. 908-545-6654 або 908-246-2145.**
**John Azarko 154 Emerson Road Somerset, N.Y. 08873-1617**

## КАМУНІЗМ ЖЫВЕ... РУСЫФІКАЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА... У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ



*Беларускія скаўты зьбіраюць ахвяраваньні на Беларускі Дзіцячы Фонд.*
*Фота В. Мельяновіча*

Добра ведама, што дзяржаўны апарат рэспублікі Беларусь у большасьці ігнаруе сваё-ж заканадаўства — не карыстаецца беларускай мовай, не пераводзіць справаводства на беларускую мову, не спрые пашырэньню беларускай культуры. У друку былі выказваньні, што прэм'ер Рэспублікі Кебіч, ня толькі не пачаў гутарыць пабеларуску, як абяцаў, але заявіў, што ён гаворыць і па-польску, маўляў, можна гутарыць у Беларусі і па-польску, абы не на сваёй мове.

Найбольш аднак кідаецца ў вочы праводжаньне старое камуністычнае расейска-інтэрнацыяналізуючае палітыкі ў галіне працы з моладзьдзю. Як ведама, камсамол у Беларусі быў адным з самых баявых у галіне выкараненьня нацыянальнае культуры. І што-ж сталася з тым камсамолам, пасьля жніўня 1991 году? Стары праверaны русафільскі камсамол і ўся ягоная армія кіраўнікоў ператварыліся ў арганізацыю «Союз Скаутов и Гайдов Белоруссии». Спачатку гэтая арганізацыя была філіял аднайменнай арганізацыі ў Расеі, а потым ператварылася ў незалежную арганізацыю, захоўваючы аднак прынцыпы расейскае арганізацыі. Гэты Союз не карыстаецца беларускай мовай, абыякавы, а часта і варожы да нацыянальнага адраджэньня, прапагуе прынцыпы Расейскае Вялікадзяржаўнасьці. Улады зарэгістравалі гэтую варожую Беларусі арганізацыю, даюць сродкі. падтрымваюць кіраўніцтва (былое кіраўніцтва камсамолу) і г.д. Адначасна ж урадавыя колы ня хочуць рэгістраваць беларускую нацыянальную арганізацыю, якая спрабуе станавіцца на ногі — «Аб'яднаньне Беларускіх Скаўтаў». Гэтай нацыянальнай беларускай маладзежнай арганізацыі робяцца перашкоды, не даецца ніякае дзяржаўнае дапамогі, падтрымкі. Усё што робіцца ў арганізацыі беларускіх скаўтаў — дасягаецца высілкам бацькоў і нацыянальна сьведамых людзей. Аб гэткім ненармальным становішчы трэба інфармаваць амэрыканцаў — кангрэс, арганізацыю скаўтаў ды іншыя маладзёжныя арганізацыі. Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі варта было-б зацікавіцца гэтай справай глыбей.

**В. З.**

# МІТРАПАЛІТ БАПЦ МІКАЛАЙ У БЕЛАРУСІ

**(Працяг. Пачатак гл. у №№389-390)**



*Спатканьне дэлегацыі ў Менску*

**Баранавічы й Сноў**

Мой зямляк Міхась прыехаў у сыботу раніцаю, 7-га сакавіка забраць мяне ў Баранавічы ды гасьціць ў яго. Пад'яжджаючы да Баранавічаў мы праехалі праз мястэчка Новую Мыш, дзе калісь была наша гміна, ды рэчку Мышанку. Рэчка паказалася мне вельмі маленькай. Ня ведаю, ці яна памяншала сапраўды, ці толькі паказалася малой ў параўнаньні з рэкамі, якія мне прыходзіцца праяжджаць тут у Амэрыцы. У Баранавічах было мне цяжка пазнаваць вуліцы й будынкі, якія я калісь добра ведаў. Бязумоўна я лёгка пазнаў Пакроўскі Сабор, куды я хадзіў у 1937-1939-ых гадох. Мая парахвія была ў Каўпеніцы, але вучні сярэдніх школаў мусілі хадзіць у царкву ў Баранавічах. Служба для вучняў і жаўнераў пачыналася а гадзіне восьмай раніцы. Маім абавязкам было весьці ўлік прысутнасьці на службе вучняў мае клясы. Сьвятар, што вучыў рэлігію, быў таксама капэлянам вайсковым у ранзе капітана. У 1938-ым годзе пачалі ўводзіць польскую мову ў навучаньне рэлігіі ды часткі Божай службы. Мы вучні бунтаваліся супраць гэтага ды выходзілі з царквы. Пашоргалі нагамі некалькі месяцаў ды перасталі. Жаўнеры, бязумоўна нагамі ня шоргалі. Гэта, што я запамятаў пра баранавіцкі Сабор. Толькі ў Амэрыцы чытаючы пра Сабор, я даведаўся, што мазайкавыя абразы (усяго сем) былі выканаваныя ведамымі мастакамі В. Васьняцовым, М. Бруні ды іншымі. Сабор, пабудаваны ў 1924-1931 гадах, ёсьць выдатным архітэтурным помнікам. Мазайкі былі пачаткава зробленыя для Сабору ў Варшаве ў 1902-1911 гадах а пазьней перавезены ў Баранавічы.

Узяўшы маю дваюрадную сястру ды пазнаёміўшыся з сям'ёю Міхася мы спыніліся на нейкія дзьве гадзіны ў маёй былай вёсцы, якая ўжо даўно стала часткай гораду Баранавічы. Цікава было спаткацца з сябрамі й сяброўкамі; на жаль ня ўсіх я ўжо іх пабачыў. Адсюль мы паехалі ў Каўпеніцу, адведаць могілкі родных. Я ўжо раней ведаў, што нашай парахвіяльнай царквы даўно ня было, яна згарэла. І цяпер ня ведаю, ці царква згарэла праз неасьцярожнасьць, ці яе спалілі. Калісь пад'яжджаючы навагрудзкім трактам да Каўпеніцы, ужо здалёк было відаць на ўзгорку прыгожую белую царкву. Пайшлі мы на могілкі, запалілі сьвечкі й маліліся за супакой родзічаў. Адчувалася адначасна жаль і шчасьце спатканьня.

На другі дзень, ў нядзелю мы паехалі ў Сноў, радзіму мае маці. Спаткаўся я тут з адным з маіх дваюрадных братоў. Мы паехалі зьведаць Кузьма-Дзямянаўскую Царкву ў Новым Снове, парахвіі мае маці, дзе вянчаліся мае бацькі дзесь каля 1920-га году. Царква прыгожая, стаіць на ўзвышшы; да яе вядуць сходы. Першае добрае ўражаньне на нас зрабіў факт, што царква была поўная й цяжка было ўвайсьці ў сярэдзіну. Царква прыгожая, але як і многія цэрквы на Беларусі патрабуе аднаўленьня: маляваньня сьценаў, рэстаўрацыі іконаў. Бязумоўна на гэта патрэбны сродкі й адпаведныя матар'ялы.

Наведаўшы царкву, мне прыпомнілася адна гісторыя пра тое, як жаніліся некалі у 20-ых гадох. Мой бацька расказваў гэтую гісторыю часта з вялікай гордасьцю. Тады настаяцелем Парахвіі быў а. прат Арэнь. Перад тым як вянчаць маладых, ён вымагаў, каб яны ведалі малітвы й іконы ў царкве. І вось, калі прышло да экзамэну, дык мой бацька ведаў усе іконы й ўсе малітвы. Калі хто з маладых ня меў гэтых ведаў, дык а. Арэнь казаў: «Штож, ты яшчэ не гатовы да сужэнства, падвучыся й прыдзі за месяц». Сяньня гэта можа гучэць архаічна. Але, калі падумаць сур'ёзна й запытацца, а што сяньня вымагаецца ад маладых людзей перад сужэнствам у сэнсе даросласьці й духовай падрыхтоўкі, ды зразуменьня адказнасьці, дык можна будзе прыйсьці да высnаву, што некалі вымагалася больш глыбокага падыходу й прыгатаванасьці да сужэнства й сужэнства было здаравейшым і больш трывалым.

**Нясьвіж і Навагрудак**

Са Снову мы паехалі зьведаць старыя беларускія гарады Нясьвіж і Навагрудак. Нясьвіж быў заснаваны ў 12-ым стагодзьдзі; пазьней ён перайшоў у валоданьне старога беларускага роду Радзівілаў. У 16-ым стагодзьдзі тут жыў і працаваў філёзаф і тэалёг Сымон Будны, які друкаваў кнігі ў беларускай мове.

Пад'яжджаючы да Наваградка, краявід пачаў рабіцца больш узгоркавы, напамінаў ваколіцы Заслаў'я. Навагрудак быў заснаваны ў пачатку 12-га стагодзьдзя, хоць паводле археялягічных дадзеных тут існавала паселішча ўжо ў 10-ым стагодзьдзі. Навагрудак быў пасьля Полацку другім цэнтрам беларускай дзяржаўнасьці, што пазьней ахапіла ўсе беларускія землі ды пашырылася на суседнія тэрыторыі. У Навагрудку каранаваўся ў 1253-ім годзе Валікі Князь Літоўскі Мендоўг. У 1317-ым была тут заснаваная Праваслаўная Мітраполія на чале з Мітрапалітам Тэафілам. У 1317-ым, 1327-ым і 1329-ым гадох прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы бяруць удзел у Канстантынопальскіх Сынодах. Год 1317 і трэба лічыць пачаткам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Царква гэтая адказвала галоўным вымогам Аўтакефальнасьці праваслаўных цэркваў, што было падцверджана удзелам ва Ўсяленскіх Саборах. У пачатку 16-га стагодзьдзя было ў Навагрудку дзесяць праваслаўных цэркваў. Сяньня іх няма. Галоўнай царквою ёсьць Барысаглебская царква з пачатку 16-га стагодзьдзя. Будавалася яна як абаронная царква на месцы, дзе ў 12-ым стагодзьдзі была іншая царква.

Праехалі мы каля руінаў ведамага Замку на Дзядзінцы, абаронная пабудовы 11-16-га стагодзьдзяў. Не хацелася пакідаць гэты прыгожы й гістарычна багаты куток Беларусі, але па раскладу сп-ні Валі Трыгубовіч мы павінны быць заўтра раніцою ў Менску.

**Моталь**

А што Ўладыка Мікалай рабіў у гэтым часе, раскажам на падставе яго дзёньніка. З Уладыкам Мікалаем былі сп. сп. Швэндзік і фатограф А. Кляшчук. Яны зьведалі даволі запушчаны замак Радзівілаў. У Ўладыкі Мікалая вялікая сям'я ў Моталі й яго там чакалі сваякі й прыяцелі. Сьпярша Ўладыка паехаў на могілкі, каб памаліцца за сваіх бацькоў і родных. У нядзелю Ўладыка паехаў у царкву, дзе служыў а. Мікалай. Моталь — месца вельмі цікавае; у ваколіцы знойдзеныя стаянкі, што сягаюць 9000 год да нашай эры. Тут ёсьць слаўныя на ўсю Эўропу ткацкія майстэрні й фабрыкі кажухоў. Нельга ня ўспомніць, што 8 кілёмэтраў на поўдзень ад Моталя знаходзіцца мястэчка Дастаева, дзе жылі продкі Хведара Дастаеўскага.



*Дэлегацыя ў Магілёве*

У панядзелак, 9-га сакавіка, мы ўсе ізноў сабраліся ў Менску. На гадз. 8:30 вечара мы былі запрошаны да Мітрапаліта Менскага й Усяе Беларусі Філарэта на прыняцьце-разьвітаньне.

## СПАТКАНЬНІ ПАЛІТЫЧНАГА ЦІ ЎРАДАВАГА ХАРАКТАРУ

**Спатканьне з Апазыцыяй Беларускага Парлямэнту**

У аўторак, дня 26-га лютага, была для нас запляваная сустрэча з сябрамі апазыцыі Вярхоўнага Савету (Парлямэнту) Беларусі ў Доме Ўраду. Было там каля дваццацёх пяці асобаў, сяброў Парлямэнту й Беларускага Народнага Фронту на чале з Зянонам Пазьняком. Былі тут журналісты й тэлевізія. Нас прадставілі прысутным ды далі магчымасьць коратка выказацца. Галоўнай тэмай спатканьня стаўся Рэфэрэндум аб выбарах новага парлямэнту Беларусі. Трэба было сабраць 350,000 подпісаў дзеля назначэньня новых выбараў Парлямэнту Беларусі. Прысутныя былі ўпэўнены, што ня глядзячы на перашкоды, подпісы (галасы) гэтыя будуць лёгка сабраныя. Хочацца перадаць адну цікавую гісторыю, якую нам расказала адна жанчына, што зьбірала подпісы на Рэфэрэндум. Яна наведала сям'ю, дзе гаспадар сказаў ёй адразу й ясна, што ён згоды на рэфэрэндум ня дасьць. Яна накіравалася да выхаду з хаты. Тады ён спытаў яе, чаму яна ня хоча зьвярнуцца да яго жонкі.



*Уладыка Мікалай каля Катэдральнага Сабору ў Менску*

Яна так і зрабіла й жонка адразу падпісалася за рэфэрэндум. Ня ведаю, ці ў устаноўленых дэмакратыях, шмат хто зрабіў-бы так.

**У Гарадзкой Управе Магілёва**

У пятніцу 28-га лютага нас прыняў, пасьля абеду, Бурмістр гораду Магілёва Сяргей Габрусёў. Магістрат гораду Магілёва месьціцца ў ранейшым Доме Саветаў. Магілёў трэйці па вялічыні горад Беларусі, мае каля 375 тысячаў насельніцтва. Гэта вялікі прамысловы й адукацыйны цэнтар. Быў моцна разбураны ў вайну. Сп. Габрусёў гаварыў па расейску. Пачаставаў нас гарбатай. Правялі мы ў яго якую гадзіну часу. Ён вельмі зацікаўлены адукацыяй і школьніцтвам, і на гэтую тэму мы найбольш гаварылі. Ён азнаёмлены з рознымі сыстэмамі навучаньня й хоча выпрабоўваць некаторыя зь іх. Я заўважыў, што выпрабоўваньне такое каштуе вельмі шмат ды парадзіў, што сьпярша трэба добра пазнаёміцца з рознымі сыстэмамі, да толькі тады ўводзіць іх. Гэтая тэма дыскутавалася й пазьней у Акадэміі Навук Беларусі. У падарунак мы атрымалі цэрамікавыя мэдалі гораду й памятковыя кнігі аб горадзе.

**В. Русак**

*(Працяг у наступным №)*

Івонка Сурвілла

# УРАЖАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**(Працяг. Пачатак гл. у но. 390)**



*Івонка Сурвілла ў Заслаўі. Фота Віктара Маркаўца*

За дванаццаць дзён у Беларусі з нагоды міжнароднага кангрэсу «Сьвет пасьля Чарнобыля», зьведала, апрача сталічнага Менску дзе адбываўся кангрэс, старажытняе Заслаўе, Стаўпеччыну, Ашмяншчыну, цудоўную Вільню; была ў Міры, у Баранавічах, у Смаргонях, у Жодзішках; бачыла Нёман, Вяльлю ды столькі прыгожых краявідаў, мілых беларускіх вёсачкаў ды сьвятыняў, якія хацелася-б бясконца маляваць.

Была на Сойме БНФ, адведала тры шпіталі, два музэі, Беларускі ліцэй, была два разы на канцэрце вучняў Ларысы Сімаковіч, якія расчулілі меняе да сьлёз, і спаткала сотні цікавых і цудоўных людзей. Пасьля некалькіх дзён усьведаміла, што не запамятую усіх падзеяў майго першага падарожжа на Бацькаўшчыну калі не запішу іх. Сёньня перагледзела свае нататкі. Запісала 52 падзеі...

крытык гэтак асэнсаваў аднойчы маю працу на выстаўцы: «Талент мастачка мае — яе абраз 'Маладая Беларуска' сьветчыць аб майстэрстве ў выяўленьню постаці жывога мадэлю, — але магчыма ня мае яна рацыі калі замыкаецца ў вобразах даўняй Беларусі».

У майстэрнях Валі Маркавец-Бартлавай, Галіны Крываблоцкай і Віктара Мікіты, у час спатканьня з Тацьцянай Гаранскай, зь Віктарам Маркаўцом, з Ганнай Маркавец і зь Лявонам Бартлавым, адчула сябе як у роднай сям'і. Гаварылі мы той самай мовай, захапляліся тымі самымі ідэямі, і, як выясьнілася, гадамі жылі тымі самымі надзеямі.

У 1989-ым годзе на Канфэрэнцыі Славістаў у Лявальскім Унівэрсытэце у Квэбэку, гаварыла я аб нацыянальным пачуцьці ў мастацтве сучаснай Беларусі. Прыклады мае брала тады з



*Валянціна Маркавец-Бартлава і Тацьцяна Гаранская пры Спаса-Праабражэнскай Царкве ў Заслаўі*

Зь вялікай прыемнасьцяй успамінаю мае спатканьні зь беларускімі мастакамі, «сябрамі па пэндзэлю» ў Менску. Лёс мастака на эміграцыі ня лёгкі. Не знаходзіць ён ані зразуменьня, ані падтрымкі ў асяродзьдзі ў якім жыве. Не належыць ён да галоўнай мастацкай плыні новай краіны. Адзін

твораў беларускіх мастакоў з сямідзесятых і пачатку васьмідзесятых гадоў — гэта значыць з часоў калі яшчэ было ня толькі ня модна, але нават небясьпечна выказваць свае нацыянальныя пачуцьці. Пасьля даўгой нацыянальнай зімы, мастакі адны зь першых пачалі бараніць сваю беларускасьць. Гэтую любоў да свайго роднага я й адчула ў маіх новых сяброў. Зь імі я праяла тры дні і шмат пабачыла.

Першая нашая візыта была ў Заслаўе, нейкіх 27 км. на паўночны захад ад Менску. Па дарозе яны мне паказалі кургановы могільнік. Тацьцяна Гаранская расказала, што архіёлягі налічылі ў Заслаўі і ваколіцах больш за тысячу курганоў X-XII стагодзьдзяў.

З высокіх пагоркаў аднае з найстарэйшых вёскаў Заслаўшчыны, Дзеханаўкі, пабачыла першы раз панараму Заслаўя з цудоўнай Спаса-Прэабражэнскай царквой, пабудаванай у 16-ым стагодзьдзі. У «Замачку», Тацьцяна з хваляваньнем паказала месца, дзе стаяў дом Рагнеды. З магутнага валу на якім узносіцца нядаўна адноўленая Царква, было відаць месца выдзеленае Заслаўскай гарадзкой управой для гістарычна-культурнага камплексу «Гарыслава», мэтай якога будзе зьбіраньне, захоўваньне, дасьледваньне і прапагаваньне матар'ялаў зь гісторыі Заслаўя і Беларусі, і разьвіцьцё народнае творчасьці ды беларускага выяўленчага мастацтва.

Камплекс «Гарыслава» будзе базай для прыхільнікаў беларускай гісторыі і культуры як зь Беларусі гэтак і зь іншых краінаў сьвету. Аўтарамі праэкту ёсьць Тацьцяна Гаранская і Віктар Маркавец. Камплекс будзе улучаць музэй гісторыі Заслаўя, бібліятэку, слайдатэку, фільматэку, мастацкую галерэю, гатэль, рэстаран і капліцу. Праэкт вельмі цікавы. Каб яго ажыцьцявіць Тацьцяна Гаранская і Віктар Маркавец разьлічваюць на падтрымку дыяспары. Яны зьвяртаюцца «да нацыянальнага сьведамых беларусаў розных краінаў паспрыяць, на ўзаемна выгадных умовах, стварэньню гісторыка-культурнага камплексу 'Гарыслава' — утульнага асяродку беларускай нацыянальнай арыентацыі — канкрэтным удзелам, парадай і рэкамэндацыяй». (Для кантакту: Рэспубліка Беларусь, 223036 г. Заслаўе, вул. Луначарскага, дом 35, кв. 3)

Вярнуўшыся ў Менск, рэшту дня правялі ў майстэрнях. Аглядалі габэлены Валі Маркавец-Бартлавай і яе сястры Галіны Крываблоцкай. Творы Валі — адважныя формай, вялікія памерам абстракцыі, між якімі вылучыліся сваёй аргінальнасьцяй дзьве тканіны з газэтнымі выразкамі, якія злучаў у вадзін магутны твор высокі чырвоны крыж на фоне белай сьцяны. Валя назвала гэты габэлен «Поле экалегіі», ткала ў 1989-ым годзе. Працы Галіны таксама глыбокія але больш стрыманыя стылізацыі. «Сьветач», «Ахвярам 37-га», «Апошнія ліхтары» расказваюць ня толькі пра сучасную гісторыю Беларусі, але й выяўляюць глыбокія нацыянальныя пачуцьці мастачкі. З творамі гэтымі я была знаёмая раней. У Канадзе захаплялася іхнымі рэпрадукцыямі зьмешчанымі ў студзеньскім нумары часопісу «Мастацтва». Таксама ведала «Докшыцкую Зямлю» Віктара Маркаўца, пра якую пісаў абшырна ўспомнены часапіс у сьнежні мінулага году. Прыемна цяпер было сядзець у Менску з аўтарамі твораў і разважаць пра мастацтва.

Валя Маркавец-Бартлава запрасіла суседа па майстэрні графіка Віктара Мікіту, які нядаўна выдатна ілюстраваў кнігу Алега Лойкі «Скарына на Градчанах». Ён-ж папрасіў нас зайсьці да яго, каб паказаць свае апошнія творы. Гаварылі й пра маю графіку. Вялікую прыемнасьць зрабіў мне камэнтар Віктара Мікіты. Ён заўважыў, да якой ступені мае гравюры па характару беларускія і гэта тады, калі амаль усё дасюлешняе жыцьцё прайшло далёка ад Бацькаўшчыны.

*(Працяг у наступным нумары)*

## КАЛІ-Ж ВЕРНУЦЦА НА БЕЛАРУСЬ ЗАРАБАВАНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ СКАРБЫ З РАСЕІ?

У дваццатых гадох у Менску былі выказаныя патрабаваньні ды зробленыя сьпісы скарбаў, якія царская адміністрацыя павывозіла зь Беларусі ды перахоўвала ў расейскіх установах. Пагромы беларусаў у трыццатых гадох спынілі гутаркі на гэтую тэму. Ад таго часу колькасьць беларускіх скарбаў, якія вывозіліся ў Расею толькі павялічылася ды ў выніку падзеяў другое сусьветнае вайны ў Маскве апынуліся беларускія скарбы, якія былі перад тым у Заходняй Эўропе, прыкладам Беларускі Дзяржаўны Архіў у Празе, у значнай меры быў вывезены ў 1945 годзе ў Маскву.

Тэма звароту беларускіх скарбаў выплыла й цяпер. У газэце Звязда за 30 травеня сёлета быў выдрукаваны цікавы артыкул на гэтую тэму зь пералікам некаторых каштоўнасьцяў. Вось колькі цытатаў з артыкулу: «большая частка беларускіх каштоўнасьцяў знаходзіцца за межамі рэспублікі без юрыдычных на тое падставаў.» «У Дзяржаўным гістарычным музеі былога СССР пыляцца ў запасьніках каля 300 вядомых слуцкіх паясоў. (Сёньня ў самой Беларусі знаходзіцца толькі адзін такі пояс.) Там жа захоўваюцца каштоўныя налібоцкія кубкі мясцовай шкляной мануфактуры, калекцыі наваградзкай і ружанскай старажытнай зброі, каштоўная археалягічная знаходка 1858 году — аршанская кальчуга, 84 кнігі Францішка Скарыны, зь іх 82 скарынаўскія кнігі знаходзяцца ў Маскве. Там жа, знаходзіцца 2 вагоны вывезеных у часе першае сусьветнае вайны з Бачэйкава, Віцебскай вобласьці, калекцыі выяўленчага мастацтва князёў Ціханавецкіх, нашчадак князёў Ціханавецкіх, д-р Андрэй Ціханавецкі цяпер жыве ў Лёндане й мае лучнасьць зь беларусамі».

У Звяздзе таксама адзначаецца, што беларускія скарбы знаходзяцца і ў Літве, на Украіне, у Польшчы, Нямеччыне ды ўсе гэтыя скарбы трэба зьвярнуць юрыдычнаму ўласьніку — Рэспубліцы Беларусь.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ ДАСЬЛЕДНІЦЫ

У сувязіз выхадам на пэнсію, адыходам ад штадзённае адміністрацыйнае бібліятэчнае працы ды поўным пераключэньнем на працу беларусаведную, два амэрыканскія прафэсыйныя часапісы прысьвяцілі артыкулы сп-ні Зоры Кіпель. Бюлетэнь Асацыяцыі Спэцыяльных Бібліятэкароў адзначыў прафэсыйныя посьпехі Зоры Кіпель у бібліятэчнай кар'еры ды падкрэсьліў ейныя беларусаведныя працы.

Артыкул у Запісках Нью-Ёрскае Публічнае Бібліятэкі (вясна 1992 г.) пра Зору Кіпель напісаў праф. Том Бэрд. Прафэсар Бэрд апрача дэталёвых біяграфічных дадзеных, адзначыў працу Зоры Кіпель у агульнаамэрыканскім праэкце распрацоўкі кампютарнае каталягізацыі славянскіх друкаў, у якім як Нью Ёркская Бібліятэка, гэтак і сп-ня Кіпель былі піянерамі-пачынальнікамі, ды прааналізаваў дзейнасьць Зоры Кіпель у галіне беларусікі і грамадзкага беларускага жыцьця. Артыкул свой праф. Бэрд закончыў думкай, што дзякуючы зьмене палітычнага клімату, абвешчаньню незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, Зора Кіпель пляную цяпер бліжэйшае супрацоўніцтва з бацькаўшчынай ды рэалізацыю шмат якіх дасьледных тэмаў беларусікі.

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

Беларуская калёнія ўрачыста адзначыла царкоўнае сьвята патронкі Жыровіцкае Божае Маці, якое адбылося 17 травеня 1992 году. А 10-ай гадзіне раніцы сьв. Літургію ачоліў мітрапаліт Мікалай, першы Ярарх БАПЦ ў саслужэньні з прат. Міхасём Страпком і Іераманахам Якубам. Служба прайшла ў малітоўным настроі й прыгожа сьпяваў царкоўны хор. У канцы службы мітрапаліт Мікалай паклікаў Андрэя й Олю Стрэчын да іканастасу й уручыў ім пахвальную грамату БАПЦ за іхнюю вялікую ахвярную і нерастанную працу ў парахвіі. Затым адбылася працэсьія навокал царквы з іконай Жыровіцкае Божае Маці.

Пасьля службаў адбыўся супольны абед у царкоўнай залі, на якім былі ўшанаваныя спадарства Стрэчынаў. А. Якуб прывітаў са сьвятам Мітрапаліта Мікалая, гасьцей з Канады, Дэтройту, парахвіянаў і сям'ю Стрэчынаў. Затым каратка прывітаў іх старшыня парахвіяльнае рады Сяргей Карніловіч і уручыў падарунак ад парахвіі. Таня Кананчук вітала ад Жаночага Задзіночаньня й уручыла таксама падарунак. Старшыня Рады БНР, Др. Сажыч прывітаў і падкрэсьліў, што Андрэй ня толькі ўлажыў шмат працы ў калёніі Кліўленду але й навонкі, як, прыкладам, у Дэтройт зрабіў іканастас, прыязджаў на сьвяты й службы. Мітр. Мікалай вітаючы зазначыў, што яны запраўды ўлажылі шмат працы і вельмі добра, што мы цяпер іх ушаноўваем пры здароў'і, бо некаторыя ад нас адышлі раптоўна як сп-ня Клаўдзія Каляда, што працавала цэлае сваё жыцьцё і не пасьпелі ўшанаваць яе. Ахвярных людзей нам заўсёды патрэбна, каб асягнуць нашыя грамадзкія й рэлігійныя мэты.

У канцы спадарства Стрэчыні склалі шчырую падзяку усім за ўшанаваньне: мітр. Мікалаю за багаславеньне й пахвальную грамату, сьвятаром за службы й прывітаньні, Сяргею Карніловічу-парахвіяльнай радзе за наладжаньне гэтага прыняцьця й падарунак, Жаночаму Камітэту за прывітаньне й падарунак, Др. Сажычу й ўсім прысутным за ўдзел. Сьвяткаваньне закончылася малітвай.

**К. П.**

## ДЗЕНЬ МАЦІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ



*Дзень Маці ў Кліўлендзе. Фота Галіны Кананчук*

Штогоду беларуская калёнія ў Кліўлендзе урачыста ўшаноўвае сьвята Дзень Маці, на якім выказваецца падзяка маткам за іхнюю вялікую ахвярную працу прароблену на працягу году, як у сямейным, так і ў грамадзкім жыцьці. Так і сёлета прарахвіяльная рада Жыровіцкае Божае Маці наладзіла прыняцьцё ў нядзелю 10 травеня 1992 году.

Пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены малебен за Беларусіх матак. У канцы службы прат. Міхась Страпко расказаў аб пачатку Дня Маці ў Амэрыцы, падкрэсьліў што беларускія маткі шмат перажылі пры ўзгадаваньні сваіх дзяцей ў часе вайны і за часы камунізму й пажадаў ім усяго найлепшага й добрага здароўя. Іераманах а. Якуб зазначыў што сьвяткаваньне ў гэтым годзе Дня Маці зьяўляецца больш урачыстым, бо супала разам з Вялікодным сьвятам Жанчын Міраносіцаў і злажыў найшчырэшыя пажаданьні маткам й іхнім семям.

Затым у царкоўнай залі адбыўся пачастунак для матак, які прыгатоўвалі й абслугоўвалі мужы, сыны, дочкі й унукі. Гасьцінасьць прадаўжалася доўга у добрым настроі, і маткі, а іх было каля 40, прыгожа адзетыя ў вясёлым настроі не сьпяшаліся ісьці дадому. Старшыня парахвіяльнае рады Сяргей Карніловіч прывітаў матак зь іхным днём, падзякаваў за працу ў калёніі й пажадаў добрага здароўя ў будучыні. Ад парахвіі былі ўручаныя маткам прыгожыя вазоны кветак.

**К.П.**

## СПАДАРСТВА ОЛЯ Й АНДРЭЙ СТРЭЧЫН:
### КЛІЎЛЕНД УШАНОЎВАЕ АДДАНЫХ ГРАМАДЗКІХ ПРАЦАЎНІКОЎ





Андрэй Стрэчын нарадзіўся 9 ліпеня 1916 году ад бацькоў Дзяміда й Ірэны Стрэчын у вёсцы Лахва неделёка ад Лунінца. Сям'я была вялікая: 7 братоў і дзьве сястры. Бацька быў земляробам і меў даволі вялікую гаспадарку аднак ўсе не змаглі працаваць на гаспадарцы й пайшлі ў іншыя галіны працы. Андрэй пайшоў у будаўляную й будаваў дамы й школьныя будынкі.

Оля нарадзілася 18 лютага 1922 году у гэтай самай вёсцы Лахва ад бацькоў Грыгора й Александры Кот у даволі вялікай сям'і мела 7 сёстраў. Гаспадарка ў бацькоў была не вялікая.

У 1939 годзе Андрэй і Оля ажаніліся й мелі першага сына Міхася ў 1940 годзе, а пазьней другога сына Колю ў 1944 годзе. Калі нямецкая армія адступала на захад, сям'я Стрэчына й шмат іншых з гэтай ваколіцы выехалі ў Нямеччыну й працавалі каля Ляйпцыгу, дзе нарадзіўся трэйці сын Віктар.

Хутка па вайне сям'я Стрэчынаў перабралася ў Бэльгію, дзе Андрэй пачаў працаваць у капальнях. Жылі недалёка гораду Льежу. У Бэльгіі сям'я Стрэчынаў улучаецца ў белерускі грамадзка-палітычны рух. Андрэй і Оля становяцца аднымі з закладчыкаў і першых актывістаў Саюзу Беларусаў Бэльгіі. Шмат беларускіх імпрэзаў у горадзе Льежы не адбыліся-б каб ня было паблізу Андрэя й Ольгі. Стрэчыны частыя госьці ў Лювэне, дзе дзейла грамада студэнтаў, яны як могуць, дапамагаюць беларускім студэнтам, часта падарожнічаюць з студэнтамі у іх выступленьнях.

У 1955 годзе Стрэчыны перабіраюцца ў Злучаныя Штаты й пасяляюцца настала ў г. Кліўлендзе. Адразу-ж улучаюцца ў грамадзкую працу й безь перапынку ў грамадзкім жыцьці да цяпер. Оля й Андрэй сталіся апорай у шмат якіх арганізацыях.

Найбольш аднак працы Андрэй уклаў у разбудову прыходу сьв. Маці Жыровіцкае, БАПЦ. Напачатку, Андрэй будаваў царкву, потым прыводзіў у парадак прыцаркоўныя будовы, далей рабіў рамонты ў царкве. Ды ці пералічыш усё, да чаго прылажыў свае здольныя рукі Андрэй.

Оля менш брала ўдзелу пры будовах, але яна заўсёды была ў залі, на кухні: чысьціла, малявала, прыбірала, арганізоўвала. Яны ніколі не прапускалі ні службаў ні імпрэзаў ды заўсёды, у меру магчымасьцяў, падтрымвалі ўсе грамадзкія й царкоўныя пачынаньні матар'яльна.

Андрэй быў актыўна ўлучаны і ў арганізацыйнае жыцьцё калёніі. Ён быў даўгія гады сябрам Царкоўнае Рады Парахвіі, быў актыўным вэтэранам, шмат прычыніўся да працы ў БАЗА, быў неаднаразовым дэлегатам на Кангрэсы БАЗА, быў актыўным рэспубліканцам і езьдзіў на зьезд у Вашынгтон. Вялізарную працу Стрэчыны прарабілі і на Полацку — Андрэй самаруч зрабіў колькі будоваў, а Оля дапамагала ў сотнях мерапрыемстваў.

Праз гады й гады Андрэй руціцца, каб як найболей сабраць падпішчыкаў на газэту Беларус, актыўны сябра БНР, кіраўнік групы, ды прадстаўнік на Кліўленд Фонду 25 Сакавіка.

Шмат грамадзкіх арганізацыяў не абыходзіліся бяз удзелу й Олі. Яна і ў Жаночым Згуртаваньні і дапамагае моладзі і БАЗА і, асабліва Царкве. Бяз Стрэчынаў ня было амаль ніколі ні працы з варэнікамі, ні пікнікаў, ні выставак. Яны былі ўсюды!

У адзнаку гэткае грамадзкае працы на працягу блізу 40-х гадоў, кліўлендзкая калёнія вырашыла ўшанаваць Стрэчынаў у дзень Патронкі Парафіі, у прысутнасьці Уладыкі Мікалая ды падзякаваць ім за працу укладзеную ў развіцьцё нашае калёніі. Грамадзтву было прыемна прывітаць Стрэчынаў з шчасьліва перанесенымі апэрацыямі (абодвыя крыху занядужалі) ды пажадаць поўнага выздараўленьня. Дык радуйцеся й весялецеся разам з намі, што Ваша праца тут не пайшла на дарма, а шмат дапамагала ў разьвіцьці нашае калёніі, а таксама да зьменаў у нашай Бацькаўшчыне, бо цяпер рэлігійнае жыцьцё поўнасьцю разьвіваецца й наша краіна Беларусь ёсьць незалежная дзяржава.

**К. Калоша**

## КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЕЙЛЬСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Ад 18 да 20 чэрвеня ў Ейльскім унівэрсытэце ў гор. Нью Гэйвэн, штат Каннэктікат, Польскі Інстытут Навуковы ў Амэрыцы адзначаў сваё пяцьдзесятгодзьдзе. З гэтае нагоды інстытутам былі арганізаваныя шэраг канфэрэнцыяў ды колькі зь іх былі прысьвечаныя нацыянальным праблемам Усходняе Эўропы. У працах канфэрэнцыі на тэму «Нацыянальная дасьледчыя ўстановы Амэрыкі, іх роля ў ЗША й значаньне для бацькаўшчыны» узяў удзел д-р Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Д-р В. Кіпель ва ўступе да дакладу разгледзеў гісторыю беларускіх дасьледчых і культурных установаў паза бацькаўшчынай, пачынаючы ад 1920-х гадоў, калі ў Празе былі дзейныя беларускія культурныя арганізацыі ды актыўную дасьледчую працу праводзіў Беларускі Нацыянальны Архіў. Адзначыў дакладчык таксама ролю беларускіх дасьледча-навуковых-літаратурных таварыстваў як «Шыпшына», Крывіцкае Навуковае Таварыства» "Беларуская Бібліяграфічная Служба», «Англа-Беларускае Таварыства» для падрабязна спыніўся на дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку. Дакладчык падкрэсьліў, што беларускія навукова-дасьледчыя арганізацыі ў дыяспары адыгралі важную ролю у папулярызацыі беларускае навукі й культуры на захадзе (В. Кіпель, зрабіў агляд англамоўных артыкулаў напісаных сябрамі беларускіх навуковых арганізацыяў). Гэтаксама у некаторых галінах дасьледваньняў, як Скарыніяна, вывучэньне эміграцыі — замежныя беларускія установы былі піянэрамі. Калі-ж ідзе гутарка аб значаньні эміграцкіх установаў для бацькаўшчыны, дык гэтыя ўстановы былі добрай маральнай падтрымкай нацыянальна думаючым кадрам на бацькаўшчыне.

**П.К.**

# ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БЭРЛІНЕ

Сёлета, ад 11 да 17 траўня, адбыўся Тыдзень беларускай літаратуры у Бэрліне. Арганізаваны ён быў суполькай нямецкіх пісьменьнікаў "Literarisches Colloquium Berlin" па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Норберта Рандава (Norbert Randow) — даўняга і шчырага сябры беларускай літаратуры ў Нямеччыне. Гэта дзякуючы яму і таленавітай нямецкай перакладчыцы Эльцы Эрб (Elka Erb) былі падрыхтаваныя ўсе пераклады і матэрыялы «Тыдня».

Беларуская дэлегацыя прыехала сюды ў складзе пісьменьнікаў Васіля Быкава, Алеся Разанава, Адама Мальдзіса, Уладзімера Арлова, Ніны Мацяж і Вольгі Іпатавай.

Адкрыцьцё гэтага значнага форуму адбылося ўвечары 12 траўня ў доме літаратурнага калёквіума на Ванзэе (Wannsee). Адчыніў яго уступным словам Н. Рандаў, у якім акрэсьліў мэты й задачы «Тыдня», пазнаёміў прысутных зь беларускімі пісьменьнікамі. Даклад аб стане сучаснай беларускай літаратуры зрабіў А. Мальдзіс, у якім працэсы разьвіцьця літаратуры цесна зьвязаў з адраджэньнем культуры й краю. Літаратурную частку вечару распачаў В. Быкаў чытаньнем урыўку з аповесьці «Аблава». Пазьней зь нізкай натхнёных вершаў выступіла Н. Мацяж. Нямецкая публіка з задавальненьнем праслухала абодвух спачатку на беларускай мове, а затым і ў перакладах Н. Рандова і Э. Эрб. Сярод прысутных, якіх сабралася больш за 40 асобаў, былі ведамы нямецкі выдавец К. Мюлер-Крэпон (Muller-Crepon) з жонкаю, карэспандэнты, пісьменьнікі калёквіуму, зацікаўленая публіка. Вечар закончыўся ажыўлёнай дыскусіяй.

Наступная сустрэча зь беларускімі літаратарамі адбылася ў Бэрлінскім доме Брэхта (Brecht Zentrum Berlin), дзе с посьпехам выступілі з чытаньнем сваіх вершаў і паэмаў А. Разанаў і урыўкаў з аповесьці «Раданіца» А. Кудравец. Сустрэча выклікала зацікаўленую дыскусію аб лёсе й адметнасьці беларускай літаратуры. На ёй прысутнічалі дасьледніца беларускай культуры ў Нямеччыне Соня Гайль (Sonja Heyl), былыя супрацоўнікі нямецкага консульства ў Менску і іншыя аматары беларускай літаратуры.

14 траўня нямецкія чытачы мелі мажлівасьць там-жа у Бэрлінскім доме Брэхта, пазнаёміцца зь беларускімі літаратарамі, што пішуць на гістарычную тэматыку, Ул. Арловым па ягонай прозе і вершах і В. Іпатавай па ўрыўках з раману «За морам Хвалынскім». У той-жа дзень частка беларускіх пісьменьнікаў разьехалася па розных кутках Нямеччыны. А. Кудравец наведаў Г. Нойтштэрліц (Neusterlitz), дзе Гундула Чапега разам са сваім мужам Уладзімерам (Gundula und Wladimir Tschepego) — шчырымі сябрамі й перакладнікамі беларускай літаратуры — арганізавала вельмі прыемную сустрэчу для аматараў нашай літаратуры, а А. Разанаў, А. Мальдзіс сталі ўдзельнікамі сустрэчы з славістамі Саарскага унівэрсытэту (Universität des Saarlandes), якую зарганізаваў праф. В. Кошмаль (W. Koschmal).

На наступны дзень у гэтым-жа унівэрсытэце перад шматлікай аўдыторыяй аматараў паэзіі зь вялікім посьпехам выступіў А. Разанаў, а А. Мальдзіс паехаў у Кёльн, дзе ў Інстытуце славістыкі мясцовага унівэрсытэту разам з праф. Ульрыхам Обстам (Ulrich Obst) выступіў з дакладам аб праблемах старажытнай беларускай літаратуры і мовы. Актыўны ўдзел у гэтай сустрэчы прыняў і ведамы нямецкі славіст, праф. Бонскага унівэрсытэту Ганс Ротэ (Hans Rothe).

Як і трэба было чакаць, гэтая значная культурная падзея знайшла адлюстраваньне ў нямецкім друку у артыкулах і водгуках газэтаў "Tagesspiegel", "Berliner Zeitung", "Nordkurier", "Saarbrücker Zeitung" і інш. А тая акалічнасьць, што нямецкія пэрыядычныя выданьні выказалі жаданьне друкаваць творы беларускіх пісьменьнікаў, а ведамы старэйшы часапіс "Neue Rundschau" прысьвеціць беларускай літаратуры цэлы нумар, сьветчыць што Тыдзень беларускай літаратуры ў Бэрліне набыў рэзананс, стаўся яшчэ адным яркім сьветчаньнем таго, што беларуская літаратура ў Нямеччыне знайшла свайго зацікаўленага чытача.

**У. Сакалоўскі**

# БЕЛАРУСКІЯ КАРТАГРАФІЧНЫЯ ЗБОРЫ Ў АМЭРЫЦЫ

На нядаўна адбытым кніжным кірмашы ў Нью Ёрку, пакупнікоў зацікавіў стэнд з надзвычай багатай калекцыяй картаў Беларусі. Асабліва прыцягвалі ўвагу новыя карты радыяцыйнае забруджанасьці рэспублікі Беларусь для вобласьцяў Гомельскае й Магілеўскае. Карты, як і можна было спадзявацца, былі хутка распрададзеныя. З гэтае нагоды — вялікае колькасьці беларускіх картаў на аукцыёне, — зьявілася жаданьне зрабіць заўцемку аб беларускіх картаграфічных зборах у Амэрыцы.

Найбольшая калекцыя картаў Беларусі знаходзіцца ў Вашынгтонскай Кангрэсавай Бібліятэцы. Бібліятэка налічае добра панад сотню картаў рознага профілю і маштабу. Найбольш, аднак у Вашынгтоне картаў адміністрацыйных і фізіяграфічных.

Наступная па колькасьці картаў Беларусі знаходзіцца калекцыя Нью-Ёркскае Публічнае Бібліятэкі ў картаграфічным яе адзьдзеле. Як і ў Вашынгтонскай Бібліятэцы й Нью-Ёркскай калекцыі пераважаюць карты адміністрацыйныя, але ёсьць вельмі шмат і іншых. Цікавымі й рэдкімі ў Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы ёсьць карты-скечы пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя выдадзеныя Генеральным Штабам Расейскае Імпэрыі ў сэрыі рэкагнасцыровачных працаў аб занятых тады рэгіёнах імпэрыі. Багата прадстаўлены ў Нью-Ёркскай Бібліятэцы і карты беларускага замежжа, карты БНР ды іншых беларускіх выдавецтваў. Як у Нью Ёрку, гэтак і Вашынгтоне ёсьць колькі выдатных картаў Беларусі ў нямецкай мове, якія выдаваліся ў Нямеччыне для вайсковых патрэбаў.

Цікавыя картаграфічныя зборы беларусікі знаходзяцца ў калекцыях Гарвардскага, Стэнфардскага й Чыкагскага унівэрсытэтаў. У унівэрсытэцкіх калекцыях пераважаюць карты спэцыяльныя, найперш лінгвістычныя, якіх асабліва багата ў Гарвардскім унівэрсытэце.

Надзвычай багатыя зборы беларускіх картаў знаходзяцца ў Амэрыканскім Геалягічным ды Геаграфічным Таварыствам у штатах Калярада й Уісконсін. Разам з картамі, амэрыканскія бібліятэкі зьбіраюць і геаграфічныя атлясы. Нажаль беларускіх атлясаў няшмат, а той, што выйшаў у БССР напрыканцы 50-х гадоў, стаўся бібліяграфічнай рэдкасьцю, асабліва ў беларускім варыянце.

Гаворачы пра беларускую картаграфію, нельна ня ўспомніць, што ў беларусаў ёсьць добрыя працы па гістарычнай картаграфіі, — гэта працы Віктара Астроўскага і нядаўна выдадзеная ў Менску праца прафэсара Е. Е. Шыраева, аднак агульнае працы па беларускай картаграфіі пакуль што няма.

Калекцыянер

## ПАРАДА МАЛАДЫМ БАЦЬКОМ!

Маладыя бацькі! Купляйце Вашым дзецям цацкі геаграфічнага профілю, як прыкладам «пазэлс», розныя кубікі, размалёўныя сшыткі, тых фірмаў, якія на свае прадукты-цацкі наносяць краіну — рэспубліку Беларусь.

# ФІЛЯТЭЛІСТАМ І КАЛЕКЦЫЯНЕРАМ БЕЛАРУСІКІ

Выйшла яшчэ адна новая беларуская марка дэнаміналам у 2 рублі (?) з выявай гербу Полацку.



Беларускія грошы.
Нацыянальны Банк Беларусі выпусьціў колькі тыпаў папяровых грошаў розных узроўняў:











# ЗВАРОТ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎЧЫНЫ

## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

У Рэспубліцы Беларусь вядзецца праца над 130-томнай гісторыка-дакументальнай хронікай «Памяць» — своеасаблівай эмацыянальнай энцыклапедыяй, у якой маркуецца адлюстраваць лёс усіх рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны ад глыбокай старажытнасьці да сёньняшніх дзён.

Бадай, упершыню ў славянскім сьвеце мы ажыцьцяўляем такое шырокамаштабнае выданьне сваёй гісторыі, якая набывае асаблівы сэнс якраз цяпер, калі Беларусь абвешчана незалежнай. Час ідэалагічных догмаў, хочацца верыць, сыходзіць назаўсёды — насьпела пара сказаць усю праўду пра свой народ і яго трагічны лёс. Нацыя не можа быць жыцьцястойкай без засьведчанага і асэнсаванага мінулага.

Архіўныя матэрыялы сярэднявечча, дакумэнты розных часоў па гісторыі і культуры, знакамітыя беларускія радаводы, нарысы пра выдатных людзей, біяграфіі адметных дзеячаў свайго краю, фрагмэнты з навуковых працаў і мастацкіх твораў, летапісы населеных пунктаў, асьвета, рэлігія, этнаграфія і фальклор, архітэктура і мастацтва складуць зьмест кніг Памяці. Пры гэтым будуць улічаныя ўсе новыя дасьледаваньні і факты, што сталі вядомымі ў апошні час. Хроніка стане мэмарыялам, дзе будуць ушанаваныя ахвяры войнаў, незаконных рэпрэсіяў, канфліктаў ды іншых бядот на беларускай зямлі.

Неад'емная частка шматтомнай гісторыка-дакументальнай працы — гісторыя беларускай дыяспары, лёсы людзей, што па розных прычынах апынуліся за межамі Бацькаўшчыны і сваёй дзейнасьцю ўзбагацілі сусьветную навуку і культуру. Таму Нацыянальны навукова-асьветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны, Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур, Згуртаваньне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і арганізацыйна-метадычны цэнтр Міністэрства інфармацыі РБ па выданьню кніг Памяці зьвяртаюцца да ўсіх землякоў і прыхільнікаў беларушчыны за мяжой зь вялікай просьбай: дапамажыце нам у высакароднай справе, прычыніцеся да клопату па напісаньню дасьледаваньняў, якія і з Вашай міласьці могуць стаць настольнымі кнігамі ў кожнай сям'і, заняць пачэснае месца ў кожнай хаце. Верыцца, што з Вашай дапамогай 130-томная гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць» скіруе люд беларускі на шлях дабра і справядлівасьці. Яна засьцеражэ нас ад кары бяспамяцтвам, не дасьць забыцца сьвятой нашай беларускай мовы, гісторыі і традыцыяў.

Шаноўнае спадарства! Копіі гістарычных дакумэнтаў пра Беларусь, навуковую і мэмуарную літаратуру, публікацыі ўсіх часоў з эміграцкай прэсы, фотаілюстрацыйныя матэрыялы, успаміны аб жыцьці на Беларусі за яе межамі просім дасылаць на адрас: 220617, Рэспубліка Беларусь, Мінск, ГСП, праспект Машэрава, 11, арганізацыйна-метадычны цэнтр па выданьню гісторыка-дакументальных хронік «Памяць».

Шчыра ўдзячныя Вам наперад

Адам Мальдзіс,
Алесь Петрашкевіч,
Аўген Лецка.

## НОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

**КАСТУСЬ АКУЛА.** ЗА ВОЛЮ. ТАРОНТА, «ПАГОНЯ», 1991. 172 б.

Аўтар кнігі «За волю» добра ведамы беларускаму грамадзтву й чытачу па сваіх ранейшых творах «Змагарныя Дарогі», «Гараватка» і іншыя, па сотнях артыкулаў у беларускім і англамоўным друку ды з шырокаграннае нацыянальна-беларускае дзейнасьці. Таму новы твор ягоны быў прыняты з задавальненьнем і беларускім грамадзтвам і чытачом. Грамадзтва прыняло кнігу як новы здабытак уклад у беларускую культуру дзейнасьці эміграцыі. Чытач інтуіцыйна адчуў, што і ў гэтым творы будзе нешта новае, цікавае, асабліва нацыянальны мамэнт, які пісьменьнік Акула удала выкарыстоўваў у ранейшых творах.

Што-ж у кнізе знайшоў чытач. А найперш, пісьменьнік адлюстраваў іншае асяродзьдзе, як у ранейшых творах. Будзённае жыцьцё эміграцыі, мірны час. Галоўныя героі твору, сьведамыя беларускія патрыёты, працуюць у новых абставінах. З аднаго боку ўспаміны аб нялёгкім дзяцінстве, ваенны час, беларуская дзейнасьць ды сьведамае заставаньне на чужыне з думкай працаваць для бацькаўшчыны. З другога боку зарабляньне на хлеб штадзённы, рабленьне прафэсыйнае кар'еры, вымагае шмат напружаньсьці, хваляваньняў, энэргіі. Прасоўваньне па прафэсыйнай лесьвіцы — справа ня лёгкая. Акула выдатна паказаў гэтыя два аспэкты. Але ў творы рашчынілася й іншая старонка-тэма — выдатна адлюстраваўшая неспакойнае жыцьцё эміграцыі — лапы савецка-камуністычнага КДБ, якія скрытна прасоўваліся да кожнага эміграта. Апарат КДБ бярэ маладога дзеяча, героя твору «на мушку» выкарыстоўваючы адвечна знаны прыём — жанчыну. Маладая, як ва ўсіх раманах, прыгожая, Вера мае сувязь з савецкім КДБ. Па заданьню сустракаецца з Алесям ды вывуджвае зь яго цімала патрэбных им дадзеных аб беларускіх эмігрантах.

У гэтым пляне разгортваецца ход раману, з добра апісанымі дакумэнтальнымі падзеямі з жыцьця беларуска-канадыйскіх і беларуска-амэрыканскіх грамадаў ды ўводам шэрагу характэрных пэрсанажаў. Усё-ж, як піша К. Акула, «сіла каханьня» перамагла: Алесь і Вера злучаюцца. Бясспрэчна, лірычныя й бытавыя мамэнты твору, хоць і ня новыя, але дэталізаваныя Акулам на фоне беларускасьці успрыймаюцца з прыемнасьцю й пачуцьцём задавальненьня, што і на эміграцыі пішуцца новыя творы для агульнага беларускага чытача.

Як звычай, ня справа чытача рабіць моўна-стылістычныя аналізы твору, тым балей у гэтым выпадку, бо выказаныя вышэй разважаньні — гэта прост ўражаньні-пачуцьці выкліканыя творам, заўвагі да мовы твору тым ня менш напрашваюцца. Даўжэйшы пабыт аўтара на эміграцыі, у англамоўным сьвеце, відавочна адбіўся на мове ягонага твору. Зразумелая справа, што часам для калярыту, перадаваньня асяродзьдзя, ужываюцца чужыя словы — гэта стандартны прыём літаратурнага мастацтва. Аднак у кнізе «За волю» аўтар гэты прыём перабольшыў. Ён ужывае свайго роду макаранізмы, як «Лебярдзей», «бойчык», «гайвэй», «шоў» і дзесяткі іншых словаў зачаста, ня бяручы іх ні ў двукосьсё ды й не вытлумачыўшы адпаведна іх значаньне. Гэтаксама аўтар, відаць, нагэтулькі зжыўся з ангельскай мовай, што ён часта пэракладае-калькуе англамоўныя выразы, што, нажаль, часам выходзіць недарэчна.

Новы твор Кастуся Акулы, ёсьць бясспрэчна, чародны ўклад у беларускую эміграцкую літаратуру і беларускую культуру.

**В. З.**

## ЗБОРНІК ВЕРШАЎ ЛАРЫСЫ ГЕНЮШ


ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

ВЕРШЫ

Рукапісны зборнік з 1945-47гг

Spiritus flat ubi vult.

Л. 1945-47

Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны
Лёндан 1992

У выдавецтве Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, пад рэдакцыяй і з уступам прафэсара Арнольда МкМільліна выйшаў новы зборнік вершаў Ларысы Геніюш. Важнасьць гэтага кампактнага (45 б.) друку надзвычай вялікая. Найперш, дзеля таго, што беларускай літаратуры, даюцца творы паэткі, перад тым ня друкаваныя, якія ахапляюць пэрыяд 1945-47 гадоў, а падругое, што ў англамоўным уступе, спэцыяліст зь беларускае літаратуры, прафэсар МкМільлін, дае англамоўнаму дасьледніку агульны аналіз творчасьці й жыцьцёвага шляху — паэтэсы мучаніцы, Ларысы Геніюш.

У зборніку — 41 верш глыбока лірычнага зьместу — адлюстраваньні цяжкіх пачуцьцяў паэткі ў тым ня лёгкім, змрочным часе. Ларыса Геніюш сумуе над лёсам бацькаўшчыны, балюча перажывае страту блізкіх братоў, трывожыцца за лёс сям'і, народу. Лёс пэрсанальны безразьдзельна пераплецены зь лёсам бацькаўшчыны, але на фоне шэрае будзёншчыны, як заўсёды Ларыса Геніюш уносіць таксама бадзёрасьць, веру ў перамогу нацыянальнага з Боскай падтрымкай. Так у вершы «Божа...» паэтка піша:

«Сэрцам натхнёным, Табой абагрэтым,
дай мне нат з жоўці стварыць асалоду.
Дай адкупіць мне цярпеньнем паэта
волю і долю, і шчасьце народу.»

А цьвёрдасьць паэткі, ейная упэўненасьць у сабе й нацыянальная гордасьць выказаная добра ў вершы: «Кусочак неба»:

«Б'юць у грудзі хвалі мне із дна.
Паміж запененых прыбояў
стаю прад бураю адна
з глыбокай верай, што ўстою.

Зборнік вершаў Ларысы Геніюш — каштоўны уклад у беларускую літаратуру. Каб набыць зборнік звaрачайцеся на адрас:

The Francis Skaryna Byelorussian Library
and Museum
37 Holden Road
London N12 8HS
ENGLAND

**В. Зубкоўскі**

**Васіль Мельяновіч**

## МЕНСК МЯНЯЕЦЦА

За апошнія пару гадоў мне пашчасьціла пабаваць на Бацькаўшчыне колькі разоў: найперш у складзе амэрыканскіх урадавых дэлегацыяў, пазьней як беларусу-амэрыканцу, карані якога на Беларусі. У часе кожнага пабыту заўважалася нешта новае, дадатковае, незаўважанае раней — прыемнае й няпрыемнае, блізкое й варожае.

І вось у мінулым траўні, калі я быў на Беларусі па даручэньню аднае амэрыканскае кампаніі зацікаўленае ў капіталаўкладаньні ў эканоміку рэспублікі, маючы крыху больш вольнага часу чым раней, зрабіў пару здымкаў, якія мне сьведчылі, што зьмены крочаць. Аднак, я быў таксама зьбянтэжаны, што ў дзялянцы, якая мяне цікавіць найбольш — эканамічнае разьвіцьцё бацькаўшчыны — зьмены наступаюць ня гэтак шпарка — пераход на эканоміку вольнага рынку амаль топчацца на месцы. Ды ўсё-ж я маю надзею, што і ў гэтай галіне будзе прагрэс, бо нашыя людзі шчыра хочуць хутчэй выйсьці на нармальны шлях эканамічнага й культурнага разьвіцьця бацькаўшчыны.

Вось колькі тых відкоў, якія на мяне зрабілі ўражаньне.


*Будынак былога ЦК Партыі, дзе раней выпрацоўваліся пляны змаганьня зь беларускасьцю.*

*Цяпер над будынкам лунае наш нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, а ў будынку засядае Вярхоўны Савет Рэспублікі. Нядаўна перад маім пабытам у Менску, перад гэтым будынкам былі разбураныя й зьнішчаныя помнікі Марксу й Леніну*



*Напіс гаворыць сам за сябе, а нашая старадаўняя Пагоня ўпрыгожвае табліцу.*


*Будынак амэрыканскае амбасады ў Менску*

## БАСОВІШЧА-92

Арганізатары Фэстывалю Музыкі Маладой Беларусі «Басовішча '92» паведамляюць, што ў днёх 17-19 ліпеня ў Гарадку пад Беластокам адбудзецца трэці ўжо выпуск нашага Фэстывалю.

Запрашаем усіх ахвотных наведаць Беласточчыну і наш Фэстываль. Ад імя арганізатараў: Барбара Кучынская, Аляксандар Максімюк.

# СЬВ. ПАМ. МІХАЛ СІЛЬВАНОВІЧ 10.VII.1902 — 24.IV.1992



Сьв. Пам. Міхал Сільвановіч нарадзіўся ў в. Цынцавічы, Вялейскага Павету. У сям'і яго быў брат і дзьве сястры. Праз жонку, сьв. пам. Вольгу ён спароднены зь вялікім беларускім мастаком Нікадымам Сілівановічам. М. Сільвановіч быў чалавекам моцным духова й фізычна, быў вельмі працавітым. Прыкметы гэтыя, аднак не заўсёды яму памагалі. Меў ён добрую гаспадарку ды займаўся гандлем. Цяжкія часы перажыла сям'я Сільвановічаў за савецкай улады ў пачатку саракавых гадоў, калі чатырох яго швагроў, таксама Сільвановічаў, вывезьлі ў Сібір. Не вязло Сільвановічу й за нямецкіх часоў, ён быў арыштаваны ў 1943-ім годзе. У 1944-ым годзе выехаў ён зь сям'ёй ў Нямеччыну; жыў у лягерах, працаваў на чыгунцы.

Пасля вайны, ізноў лягеры, цяпер ужо «перамещчаных асобаў». Міхал Сільвановіч актыўна ўдзельнічаў у стварэньні паасобных беларускіх групаў у гэтых лягерох. Нарэшце ён апынуўся з сям'ёю ў беларускім лягеры Розэнгайм. Тут Міхал улажыў шмат свайго высілку ў пабудову Царквы Божай Маці Жыровіцкай. Быў узнагароджаны Ўладыкам Васілём граматай за свае заслугі.

У 1950-ым годзе, сям'я Сільвановічаў выехала ў Злучаныя Штаты. Пасьля кароткага пабыту ў Бостане, яны пераехалі ў 1951-ым годзе ў Саут-Рывэр, Нью Джэрзі. Тут Міхал з сям'ёю адразу актыўна ўключыўся ў беларускае царкоўнае й грамадзкае жыцьцё. Працы тут было шмат для жадаючых, а такім быў заўсёды Міхал. Парахвія Божай Маці Жыровіцкай заснавалася ў 1951-ым годзе; у 1959-ым годзе былі куплены магільнік, у 1963-ім годзе — Царква й парахвіяльны дом у Гайленд Парк. Трэба было аднаўляць будынкі. Працы хапала для ўсіх, але Міхал браў на сябе заўсёды больш за іншых. Прыпамінаюцца часы, калі праводзіўся рамонт царкоўнай салі, калі сын яго прывозіў яго ў царкву едучы рана на працу, ды забіраў яго дамоў, гадзін дзесяць пазьней, едучы з працы дамоў. Шмат злажыў цэнных ахвяраў для царквы: ікону Сьв. Ольгі, ікону Сьв. Кірыла Тураўскага, і яшчэ ня так даўно «рызы» для настольнага Евангельля з Грэцыі. Міхал быў чалавекам высокага палёту; быў адным з тых, хто хацеў скупіць маемасьць навокал царкоўнага цэнтру. Нажаль у гэтым пачынаньні не найшлося дастаткова падтрымкі. Няхай памяць аб ім будзе вечнай.

**В. Русак**

## ПАДЗЯКА

У удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі ды іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп.: Б. Даніловіч, В. Мельяновіч, Я. Міхалюк, А. Маркевіч, Б. Паўк.

## ПАСЕДЖАНЬНЕ ЭТНІЧНАЕ РАДЫ ШТАТУ НЬЮ ДЖЭРЗІ

У панядзелак, 15-га чэрвеня адбылося чароднае паседжаньне Этнічнае рады. Беларускую групу прадстаўляў сп. Лявон Шурак. На парадку дня было наладжаньне этнічнай выстаўкі ў Ліберты Парк ды перабудове гэтай імпрэзы у Інтэрнацыянальную Гаспадарчую выстаўку з удзелам этнічных групаў з мастацкімі выстаўкамі й выступамі.

## УВАГА БЕЛАРУСЫ — АМЭРЫКАНЦЫ!



## ПАПРАЎКА

У артыкуле «Сакавіковыя выстаўкі» памешчаным у «Беларусе» за месяц травень трэба чытаць:

Вялікі дзякуй за доўгае ды карпатлівае нарыхтаваньне выстаўкі, таксама за арганізацыю, падбор экспанатаў, здымак, плякатаў ды адпаведныя паясьняючыя напісы пад імі належыцца С-ні Веры Рамук; за дапамогу ў выкладаньні выстаўковага матэрыялу — С-ні Ірэне Пануцэвіч; за тэхнічную дапамогу пры ўладжваньні выстаўкі — Сп-у Васілю Багдану.

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя часапісу "Belarusian Review" шчыра дзякуе наступным асобам, якія заміж кветак на магілу сьв. пам. Пётра Ганэцкага злажылі ахвяры на наш часапіс: Ф. Гоўард — 50.00, К. і Я. Вініцкія — 50.00, Л. Вініцкі — 20.00, М. Клішэвіч — 20.00, В. Стус — 25.00, К Ўорт — 20.00 амэрыканскіх даляраў.

"Belarusian Review" гэтаксама вельмі ўдзячны сп-ні Каці Вініцкай за ініцыятыву й час укладзены ў збор гэтых ахвяраваньняў. Рэдакцыя перапрашае, што гэтая справаздача не была пададзеная раней дзеля тэхнічных прычынаў.

## НОВЫЯ КУРАПАТЫ

Як падае друк, у Беларусі адкрываюцца новыя й новыя месцы растрэлаў, падобныя да Курапатаў. Нядаўна былі выяўленыя ў архівах КДБ паказаньні аб масавых растрэлах у ваколіцах гораду Мазыр. Дакументы сьведчаць, што у ваколіцах Мазыра, каля вёсак Бярозаўска, Баравікі, Міхалкоўская Рудня, Гулевічы, Бабры, Боркі і іншых было растраляна й закапана ў масавых магілах каля 3-х тысячаў асобаў.

# СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР БАКУНОВІЧ



23 травеня ў Дэтройце, пасьля працяглае хваробы, памёр д-р Уладзімер Бакуновіч, адданы беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч.

Нарадзіўся У. Бакуновіч 10 сьнежня 1926 году ў в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага павету. У часы Польшчы закончыў 5 клясаў пачаткавай школы, потым 2 гады вучыўся ў часе савецкай акупацыі. У гэты пэрыяд сям'і даводзілася цяжка, бо быў арыштаваны бацька й пасаджаны ў Берасьцейскую крэпасьць. У пачатку вайны 1941 году саветы ўцяклі зь Берасьця й бацька змог вярнуцца да сям'і. У 1944 годзе сям'я падалася ў Нямеччыну, дзе працавалі ў розных мясцох.

Па заканчэньні вайны сям'я восеньню 1945 году перабіраецца ў беларускі лягер у Рэгенсбургу і Ўладзімер паступае ў гімназію. Далучаецца таксама да працы ў скаўтынгу. Матуральны экзамін Уладзімер здаў у 1949 годзе ды разам з сям'ёй эмігруе ў Аўстралію. У 1954 годзе Бакуновіч варочаецца ў Эўропу ды залічаецца на унівэрсытэт у Лювэне, Бэльгія. У 1963 годзе заканчвае унівэрсытэт з тытулам доктара эканамічных навукаў. Жэніцца з Людай Войтэнка ды перабіраецца ў Амэрыку. Большую частку жыцьця ў Амэрыцы пражыў у Дэтройце.

Д-р Бакуновіч быў цесна зьвязаны зь беларускім рухам: быў сябрам ды старшынём колькіх беларускіх арганізацыяў, сябрам Рады БНР, БІНіМу. Супрацоўнічаў у друку (пісаў пераважна пад псэўданімам Сьцяблевіч). Шмат працы уклаў у разбудову парафіі БАПЦ ў Дэтройце. Пахаваны нябожчык на беларускім магільніку ў г. Іст Браўнсуік, шт. Нью Джэрзі.

Рэдкалегія газэты Беларус, сябрылюбэнцы ды выпускнікі гімназіі імя Янкі Купалы выказваюць шчырыя спачуваньні Людзе й дзецям ды сям'і ў Аўстраліі з нагоды сьмерці Ўладзімера.

**Сябры**

## «ВОСЬ БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА: МАРА, РЭАЛЬНАСЬЦЬ ЦІ МІНУЛАЕ?

Гэтак загалоўлены артыкул аўтара Юрыя Шэўцова ў Нью-Ёркскай газэце «Новое Русское Слово» за 12 чэрвеня сёлета (як выглядае передрук зь Віленскай Экспрэс-хронікі). Аўтар лягічна й спакойна аналізуе лёс Віленшчыны з гледзішча нацыянальных дачыненьняў за мінулае паўстагодзьдзе, падкрасьляючы, што найгорш у гэтым пэрыядзе давялося беларусам, бо была цалкам вынішчаная дзейная беларуская нацыянальная плынь. І тым ня менш, піша аўтар, калі напрыканцы 80-х гадоў пачалося ў Вільні беларускае нацыянальнае адраджэньне, стаў дзеіць Беларускі Народны Фронт, гэта шмат дапамагло літоўцам у дасягненьні іхнае незалежнасьці, бо беларуская дзейнасьць параліжавала магчымую русафільскую хвалю ды магчымую савецкую інтэрвэнцыю. З артыкулу вынікае, што нацыянальныя дачыненьні на Віленшчыне складаныя — польшчына, праз касьцёл мацуецца, хоць этнічная беларускасьць рэгіёну — бязсумнiўная. Адзначае таксама аўтар і значаньне Вільні для гістарычнага разьвіцьця Беларусі, ды ставіць пытаньне: якім шляхам будуць разьвівацца беларуска-летувіскія дачыненьні ў новай палітычнай сытуацыі?

Здаровы палітычны аналіз, і пахвальна, што расейская газэта артыкул перадрукавала.

Аглядальнік

## НА БЕЛАРУСКІ ФОНД «АДРАДЖЭНЬНЕ»

(Дадатак да папярэдняга нумару)
Р. Завістовіч — 200.00 даляраў,
Ю. Наумчык — 20.00.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Рада БНР ахвярue 1.000 дал. (раней Рада ахвяравала 4.000) Др. М. Смаршчок ахвяруе 900.00 дал. (500.00 дал. раней) і ў памяць В. Стомы сям'я А. Протаса ахвяруе 50.00 дал.

Управа БІНіМу выказвае шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам.

*На помнік, на могілках у Вільні, Івану і Антону Луцкевічам ахвяравалі:*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | 50.00 ам. дал. |
| Р. Галяк | 50.00 |
| В. і З. Кіпель | 50.00 |

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*
*Замест кветак на магілу сьв. пам. Васіля Стомы:*

| | |
|---|---|
| Б. і А Даніловіч | ам. дал. 50.00 |
| В. і Л. Кажан | 40.00 |
| А. Протас | 25.00 |
| Падпіска і ахвяраваньні: | |
| Я. Баран | 85.00 |
| А. Сямёнава | 50.00 |
| П. Драздоўскі | 50.00 |
| А. Даніловіч | 30.00 |
| В. Телеш | 30.00 |
| Л. Кавалёў | 30.00 |
| Ю. Наумчык | 30.00 |
| Кс. Барысавец | 25.00 |
| М. Сапежынскі | 25.00 |
| К. Міранович | 25.00 |
| А. Кучура | 25.00 |
| Я. Пятроўскі | 25.00 |
| В. Телеш | 25.00 |
| Д. Ясько | 25.00 |
| М. Каранеўскі | 25.00 |
| У. Сьлiўка | 25.00 |
| Я. Сапежынскі | 25.00 |
| Я. Азарка | 25.00 |
| Т. Кольба | 25.00 |
| М. Бахар | 25.00 |
| Я. Літвіненка | 25.00 |
| а. Г. А. Радэнковіч | 25.00 |
| М. Прускі | 25.00 |
| Н. Кудасава | 20.00 |
| М. Рагалевіч | 20.00 |
| Разам | 860.00 |

*Папраўка й дадатак да папярэдняй лісты:*

*А. Дубяга — 30.00 дал. (а не 25, як было памылкова надрукавана)*

С. Мажэйка 25 дал.

*Прыслана непрасрэдна ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В. і В. Рамук (у памяць Аўгена Пілескага) | 30.00 |
| Н. Вайтовіч | 50.00 |
| А. Орса-Рамана (у памяць В. Стомы) | 30.00 |
| Л. Бакуновіч (у памяць Ул. Бакуновіча) | 50.00 |
| Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб у Файрфілд, Аўстралія | аўст. дал. 1000.00 |